# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Біскупская вул. **12.** Рэдакцыя адчынена: **12—2** штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год I. Вільня. Пятніца, 14-га кастрычніка 1921 г. № 16.


## Яшчэ аб палітычным курсе.

Сучасны Урад Сярэдняе Літвы — па нацыянальнасьці выняткова польскі.

Гісторыя паўстаньня да жыцьця гэтага Ураду—яго, так сказаць, крыніца, ўсяму грамадзянству вядома.

Сам Урад заве сябе „Часоваю Урадуючаю Камісіяй“.

Як разумее гэта Каміся сваю будучыну (не пэрсанальна, разумеецца, кожны з яе сяброў, а ўся яна, як інстытуцыя, як урад) гэта тымчасам няважна.

Важна тое, што сам Урад разумее і прызнае сваю часовасьць.

А з гэткага разуменьня і прызнаваньня выцякаюць пэўна-ж некаторыя прынцыпы ўрадаваньня, на наш пагляд, абавязковыя ня толькі для ўрадаў часовых.

Будучы выняткова польскім, Урад Сярэдняе Літвы вельмі мала цікавіцца інтарэсамі іншага, няпольскага насяленьня, якога-ж нельга ні змазаць росчыркам канцэлярскага пяра, ні як-нібудзь іншым чынам пазбавіць права на фактычнае існаваньне.

Больш таго Часовы, Сярэдня-Літоўскі Урад ня дбае ані пра тое, каб не пагостраваць тых нацыянальных антагонізмаў, якія самі сабою істнуюць і да пэўнага часу істнаваць мусяць у сфэры яго ўрадаваньня, а як-бы наадварот іншы раз міжнацыянальныя прорвы паглыбляюцца.

Напрыклад, ад Беларускай Віленскай Гімназіі вымагаецца ў старшых клясах (V—VIII) пераход выкладаньня на польскую мову.

Літоўская Гімназія проста выселена з будынку, занятага ёю шмат раней за паўстаньне да жыцьця Часовае Урадуючае Камісіі й самое Сярэдняе Літвы.

Тут ужо гэткая іронія лёсу, што і сказаць няма чаго: Літоўская гімназія церпіць кватэрныя прыкрасьці ў... Ліцьве, хоць, праўда, Środkowej.

Але не да іроніі пэўна школьнай інстытуцыі, праца якое, з неаднагадовымі труднасьцямі нарыхтованая, раптам дайшла да крызысу...

Усе гэткія здарэньні пэўна-ж ня сьціраюць вострасьці нацыянальнага антагонізму, а паглыбляюць іх да непатрэбнай меры, пагушчаючы й без таго душную палітычную атмосфэру. Ствараецца гэткая прыкрая школа грамадзкага й палітычнага жыцьця, што нельга быць спакойнымі за выхаваньне маладой беларускай дэмакратыі, якая будучы касьцю ад касьці і крывёю ад крыві свайго сярмяжнага мужыцкага народу й так мае ў сабе сякія-такія жаданьні удасканальваньня.

Толькі за больш нормальную будучыну беларускай дэмакратыі, а ня сучасную часовасьць, не за прыкрасьці сягоняшняга дня нас можа ахапіць некаторы страх.

Але не падайма духам, бо часы мяняюцца.

А зьмена часаў нясе з сабою і зьмену палітычнага курсу.

---

**Суліма.**

## Аб безьзямельнага батрацтва да дзяржаўнай незалежнасьці.

*Перамога ірляндзкага хлебароба над Англіяй.*

II.

У першым артыкуле *) быў даны агульны нарыс ходу, схэма барацьбы ірляндзкага хлебароба з ангельскім панаваньнем, барацьбы, гатовае завяршыцца поўнаю перамогаю першага над апошнім.

У гэтым артыкуле я хацеў-бы крыху паглыбіць разгляд пытаньня і правесьці болей дэтальную паралель паміж абодвымі аграрнымі краямі, а таксама да канца прыраўнаваць прыклад Ірляндыі, як тыпічны і асабліва павучальны для Беларусі.

З гэткага глыбокага, да канца давядзенага аналізу тыпічнага выпадку перамогі зёмляробскага краю ў барацьбе за незалежнасьць лёгка будзе выцягнуць і найбольш мэтазгодныя шляхі і спосабы гэтай барацьбы,—як кажуць,—стратэгію і тактыку, якія павінны звучыць прадстаўнікі, ідэолёгі і палітыкі кожнага падобнага краю, павінны знаць і беларускія палітыкі.

*) Гл. №№ 13 і 14 „Б. З.“.

---

1. Як памятае чытач мы асабліва падчырквалі ня толькі вядомую роўнавагу момэнтаў эволюцыйна-працаўнага і рэвалюцыйна - баявога ў барацьбе за незалежную дзяржаўнасьць, але паказвалі галоўную ролю першага момэнту—ўпартае, спакойнае, пляновае працы з усімі формамі яе аб'яднаньня, проці якіх няма на зямлі аружжа, ні сілы, якія маглі-б рахаваць на ўдачу ў барацьбе.

Момэнт рэвалюцыйна-баявы шмат небесьпячнейшы і карыстацца ім трэба з вялікай асьцярожнасьцяй і тактам.

Момэнт эволюцыйна-працоўны зьяўляецца заўсёдным пляновым мэтодам арганічных пэрыядаў жыцьця народаў вялікага працягу часу, ён і стварае ўсе тыя фонды краю, ўсе тыя капіталы, якія мае, ўрэшце ўсяго, ўвесь народ цалкам, а не адны капіталістыя.

Момэнт рэвалюцыйны—ёсьць мэтод малых пэрыядаў часу, так званых крызысаў, ад якіх гэтак-жа сама церпяць не адны капіталістыя, а і ўвесь народ цалкам.

Справа вялізнага палітычнага такту й соцыяльнае тактыкі — выкарыстаць гэтыя крызысы так, каб вось гэтыя, агульна народныя інтарэсы пацярпелі як можна меней.

Гэтыя крызысы і ёсьць у сутнасьці пасьледзтвы і насьледзьдзе тых соцыяльна палітычных памылак і грахоў, якія нароблены тою, што ўладае палітычнаю ўладаю, групаю, і, натуральна, павінны служыць тым, што стаяць на вышыні агульнанародных інтарэсаў, палітыкам — дзеля папраўленьня памылак, зробленых, а нэ дзеля таго, каб рабіць новыя.

Вось-жа, першы агульнага характару вывад са сказанага ёсьць той, што як у Ірляндыі, так і ўсюды ў падобных выпадках, уся сіла так зв. „народных трэбаваньняў“ ня ў момэнце „чыстай вымагальнасьці“, а ў яе, як гаворыцца, мотывіроўцы,—у тых фондах і капіталах народнае працы, набытых за час арганічнага пэрыяду, у пазьбіраных налогах (прывычках), знаньнях, устаноўленай меры патрэбнасьцяў, як фізычных, так і духоўных і г. д.

У крытычны пэрыяд усё гэта, ў выпадку патрэбы, мобілізуецца ў мэтах барацьбы, як заўсёды зьвязанай з рызыкаю для абедзьвюх старонаў.

Як і ў ваеннай опэрацыі, кавалерыйскі рэйд, ці падгатоўка руйнуючым агнём рэвалюцыйнай артылерыі павінны быць падтрыманы і замацованы пляновым дзеяньнем пяхотных масаў і тэхнічнаю арганізацыяю тылу.

А дзеля ўсяго гэтага недаволі аднаго рэвалюцыйнага імпату й рызыкі... Вось-жа, як гэта ні парадоксальна,—найбольш рэвалюцыйнымі, ўрэшце ўсяго, й галоўнымі зьяўляюцца ў барацьбе мэтоды і спосабы мірнага заваяваньня пазыцыяў працаю, адукацыяй і арганізацыяй.

І ў гэтым сэнсе, як мы бачылі, Ірляндыя дае нам яркі прыклад поўнае перамогі клясычна мэтазгодным, комбінованым прыстасаваньнем абодвых паказаных мэтодаў барацьбы.

---

2. Над'звычайна важным і цікавым момэнтам, у значнай меры паскорыўшым процэс насьпяваньня ірляндзкага народу ў неспагадных умовах імпэрыялістычнага гнёту Англіі, зьяўляецца эміграцыя.

Наўрад ці ў якім іншым краі эміграцыя дайшла да гэткага напружаньня і грала такую ролю, як у Ірляндыі. І ў гэтым сэнсе прыклад Ірляндыі зьяўляецца тыпічным.

І ў цяперашнім крызысе 10 мільёнаў амэрыканскіх ірляндцаў з'ігралі ролю, з якою, ў кожным выпадку, трэба сур'ёзна лічыцца.

Крывая, рысуючая процэс эміграцыі, вельмі павучальная.

Па перапісі 1841 г. насяленьне Ірляндыі даходзіла да 8,2 мільёнаў, з якіх да 1911 г. засталося ў краі толькі 4,382 тыс... Гэта значыць, што за 50 гадоў насяленьне краю паменшылася амаль што на 47%, нялічачы натуральнага прыросту яго.

Найбольш напружаны адліў насяленьня якраз прыходзіцца на пэрыяд найболей упартага гнёту ірляндзкага народу, які гнёт быў нарэшце абмяжованы вядомымі білямі Гладстона аб арэндзе, ў 1870 г.

Як вядома, яшчэ ўрадам караля Якуба I была конфіскована й раздана ангельскім лёрдам амаль ня ўся зямля—кроўная ўласнасьць мясцовага насяленьня Ірляндыі (9/10 усяго пляцу—пэўна).

Чаго каштавала ірляндзкаму хлебаробу, ўсяму краю, а, нарэшце, і самой Англіі гэта чартоўская сяўба на працоўным насяленьні краю чужаземнага паразыта-абшарніка, паказвае лепш за ўсё вядомая бульбяная эпопэя Ірляндыі.

З 16 сталецьця прывезеная толькі што з адкрытае Амэрыкі бульба борзда выцясьняе вышэйшую зернявую культуру краю. І якраз з гэтага часу йдзе поўнае падняволеньне ангельскімі лендлёрдамі ірляндзкага хлебароба.

Да 1845 году йдзе паўзьбежна ўмацаваньне гнёту, „бульбізацыя“ краю, і якраз ад гэтага момэнту пачынаецца панічны адліў насяленьня, галоўным чынам у Паўн. Амэрыку.

Як вядома, бульбяная ежа значна паніжае агульны ровень актыўнае энэргіі насяленьня, але й гэта паніжаная ежа, пры істнаваўшай сыстэме земляўладаньня й выкліканым ёю адліве рабочых рук з краю ў эміграцыю, не магла здаволіць навет мінімальнае патрэбнасьці.

У 1846 г. край пацярпеў востры сельска-гаспадарчы крызыс—вядомы „бульбяны голад“ гэта—пры слаўнай сваею ўрадлівасьцю зямлі краю!

Навет ангельскі эксплёататар-лакомнік пачуў тады ўсю сілу гэтае відочнае ненормальнасьці палажэньня і простую шкоду дзеля ўсей гаспадаркі краю, і цэлаю сыстэмаю законадаўчага павальненьня ірляндзкага фэрмэра пачаў барацьбу з эканамічным паразытызмам лендлёрдаў.

Гэтак проста тлумачыцца ўдача вядомых дэмократычных біляў Гладстона.

Эміграцыя—клясычны мэтод пасыўнага масавага спраціўленьня эканамічнаму й палітычнаму гнёту ў краі—як вышэй паказана набрала ў Ірляндыі катастрофічных формаў: за 50 гадоў адліла з краю амаль не палова яго насяленьня.

Але выняткова жывучасьць народу, пастаўленага ў немагчымыя умовы істнаваньня, і ў гэтым калекім зьявішчы знайшла, нарэшце, магутную зброю проці ангельскае сыстэмы падняволеньня і зьнішчэньня.

Замежная Ірляндыя не парывала жывое і кроўнае сувязі з пакіненаю радзімаю. Паміж абедзьвюма адбываўся заўсёдны духоўны й гаспадарчы абмен, і тое, што не магло, дзякуючы палітычнаму гнёту, разьвівацца на бацькаўшчыне, расьцьвітала й разьвівалася заграніцаю—ў умовах зусім вольнае амэрыканскае грамадзкасьці, ў атмосфэры панаваўшага ў гэтай першай, што вызвалілася ад ангельскага панаваньня, колёніі—дасканальнага народапраўства.

Гэтае высокае і спагаднае ролі вялікай заатлянтычнай дэмократыі ніколі ня варта запамінаць: напэўна сваю ролю яна з'іграе і ў барацьбе за незалежнасьць і Беларусі, як і ў Ліцьве з'іграла вялізную ролю літоўская эміграцыя ў Амэрыцы.

Вырабіўшы ўсе найбольш дасканальныя мэтоды і налогі працы й барацьбы з прыродаю і з „капіталам“, загартаваўшы сваю жалезную энэргію ў вольнай рэспубліцы ўсеперамагальнае працы й гаспадарчага гэнія, ірляндзкі, літоўскі, ці беларускі хлебароб, або работнік прыносіць з сабою, вяртаючыся на бедную радзіму, ня толькі грашавы капітал — сваю назьбіраную амэрыканскую гатоўку, але—што шмат важней —усе тыя неаднімальныя капіталы арганічна усвоеных працоўных і грамадзянскіх налогаў, што навет без усялякіх рэвалюцыяў перамагаюць розныя прыгнятаньні. Жалезныя ланцугі падняволеньня эканаміч-

нага й духоўнага самі сабою рассыпаюцца ў парахню перад зьдзіўленым, прывыкшым да пакорнасьці лакомнікам-паразытам. І першага, сур'ёзнага крызысу, захапіўшага апошняга ў свае абняцьці, бывае досіць, каб тое, што ўжо насьпела й толькі па інэрцыі церпіцца народам і тамуецца прыгнятацелем,—адразу на ўсю шырыню народнага жыцьця, па ўсім фронце нацыі аформілася палітычна...

Так гэта і дзеецца цяпер у Ірляндыі. Так гэта адбылося ў Ліцьве. Так гэта й будзе няўхільна ў Беларусі.

У чародным артыкуле паглыбім пытаньне яшчэ далей, разглядзеўшы ірляндзкую эпопэю, як тыповы выпадак амаль немагчымае, па некаторых доктрынах, перамогі аграрнага краю над прамысловым.

# Вольная трыбуна.

## Царква ці касьцёл.

> Народы дзеляцца і лучацца хутчэй на асновах рэлігіі, чым дзяржаўнага ладу, або мовы. Лад дзяржаўны тады ёсьць дужы і трывалы, калі апіраецца на агульна вядомай мэтафізычнай сыстэме. Ясна, што гэта мэтафізыка мусіць быць простай, народнай, а гэта і ёсьць рэлігія.
>
> *Шопэнгауэр.*

Хочучы сказаць, што аб рэлігіі у Беларусі, трэба сьцерагчыся лёгкага дылетанства. Бо справа веры ў народзе беларускім так рэч важная, што аж стыдна, як мала цэніцца некаторымі нашымі дзеячамі. Рэч у тым, што рэлігія наагул ёсьць адным з найважнейшых твораў народнай душы. У інтэлігэнта, асабліва мяшчаніна, ёсьць і іншыя творы: іграе там вялікую ролю сьвятыня мастацтва, сьвятыня навукі; у простага народу сьвятыня рэлігіі абымае ўсе найлепшыя парывы душы,—больш скажу: сьвятыня рэлігіі заступае яму і мастацтва і навуку. Гісторыя нас вучыць, што сыстэмы рэлігійныя маюць уплыў на жыцьцё больш, чым сыстэмы навучныя. Калі назавём унівэрсытэт сьвятыняй навукі, тэатр—сьвятыняй мастацтва, царкву (касьцёл) сьвятыняй рэлігіі, то прызнаем вялікую важнасьць усіх. Важная сьвятыня розуму (мысьлі), важная сьвятыня пачуцьця (сэрца), найважнейшая сьвятыня волі (духу). А як паасобны чалавек жыве мысьляй—пачуцьцём—воляй, так і грамадзянства (чалавек соцыяльны) ня можа жыць бяз зборнай волі—пачуцьця—мысьлі. Яны-ж выражаюцца ў навуцы, мастацтве, рэлігіі. Для суцэльнага, гармонічнага разьвіцьця чалавека рэлігія між навукай і мастацтвам займае тое самае месца, што воля між розумам і пачуцьцём. Дзеля гэтай прычыны Напалеён бачыў у Хрысьце ідэал нязломнай па ўсе векі волі.

Такое тлумачэньне рэлігіі даець шмат зразумець сказ гэты: „Рэлігія гэта ня прыватная справа: яна дух нашых мысьляў і нашых паступкаў“ (Fichte).—Нам, беларусам, прыступаючы да творчасьці рэлігійнай, трэба ня толькі быць пэўнымі ў яе значэньні, але і знаць самую яе глыбіню, каб усьцерагчыся таго, аб чым кажа наш поэт:

Край мой родны! ў Божа імя,
У чэсьць касьцёлаў і царкvоў
Паміж дзеткамі тваімі
Лягло многа камянёў;
Многа выйшла трасяніны—
Меч, агонь зьнішчалі край:
З двух бакоў айцы дубінай
Заганялі нас у рай.
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрца кінута была.
І цяпер над вамі, брацьця,
Яшчэ ў сіле той раздор:
І папоўскае закляцьце
І ксяндзоўскі нагавор.

У жыцьці інтэлектуальным, як і ў жыцьці натуры фізычнай, істнуе змаганьне за быт. У змаганьні розных ідэяў тая перамагае, каторая здатна пры сваёй абстракцыйнасьці быць адначасна жыцьцёвай. «Хрысьціянства,—кажа адзін аўтор,—перамагло нястолькі дзеля сваей боскасьці, як больш яшчэ дзеля свае людзкасьці... Дзесяць, а хоць-бы дзьве мінюты штодня ў таварысьцьве Хрыстовым—тварам у твар, сэрца пры сэрцы (вучыць яно)—можа з грунту зьмяніць цэлае наша жыцьцё» (Dammond). Хрысьціянства перамагло сваей здатнасьцяй стасаваць высокія ідэі да будняга жыцьця. Гэта першая важная для нас праўда.—На Беларусі ішло і йдзе змаганьне рэлігійных ідэяў, хоць беларусы даўно ўжо хрысьціяне, значыць і прычына да змаганьня, здаецца, невялікая быць мусіць. І адклад змаганьня быў натуры незаўсёды рэлігійнай. Але трэба прызнаць, што барацьба ідэі была аграмаднай, пакуль яе не зламаў меч сьвецкай палітыкі злосных суседзяў. Гісторыя мела шчасьце, ці няшчасьце, аддаць Беларусь пад уплывы Усходу і Захаду, гэтых двух фармальных праціўнікаў у змаганьні да цывілізацыі. Вось і сьветагляд наш рэлігійны мусіў прыняць дзьве формы: грэцкую і лацінскую. Першая падпала з часам пад дэструкцыйны ўплыў Расеі, другая—Польшчы. І стуль зрадзілася дзяліцьба душы беларуса на рускую і польскую, дзяліцьба, каторая ў канцы (як бачым) падзяліла і яго цела. І цяпер мы пазналі патрэбу еднасьці, калі мус няшчасны адабраў нам яе. І калі патрэбна нам еднасьць соцыяльная, то тым больш еднасьць рэлігійная, як жывіцелька народнай душы. Гора нам, калі мы пры ўзгадаваньні народнай псыхікі спіхнём рэлігію да значэньня толькі дэвоцыйнага культу. Душа народу мусіць быць узапраўды рэлігійнай — злучанай з боскім ідэалам—іначай народ сканае. Затое-ж рымляны і вывозілі багоў народных у Рым, каб адабраць веру ў пераможаных, а з ёю загубіць душу народную. Таксама робяць, хоць іншым ладам, і нашыя імпэрыялістыя... Ня можна жыць бяз душы, а душа жыць ня можаць бяз Божае ласкі—рэлігіі. Тыя станы грамадзянства, што адкідаюць рэлігію, гібеюць. Дзеля таго ёсьць надзея, што і шляхта ў нас згіне, бо-ж яна даўно згубіла душу сваю разам з верай народнай. А народ наш захаваў пачуцьцё рэлігіі беспасярэдняе, простае, і затое дужае. Вось я і веру, што народ наш створыць нешта вялікае ў гэтай галіне культуры. Бо ён-жа праходзе школу Усходу і Захаду, мае мучаніцкую гісторыю свае веры, ён яшчэ не абаламучаны заходнім рацыяналізмам, ня скуты ўсходнім бізантынізмам: славянскі глыбокі містыцызм робіць нашага русьнячка навет на погляд задуманым у якімсь засьветным лятуценьні. Беларусь ужо выдавала людзей з сільным пад'ёмам гэніяльнага і здаровага містыцызму. Яна і цяпер крые магутную здольнасьць: здольнасьць аб'ядnаньня абодвух абрадаў у адным рэлігійным сьветаглядзе. Я тут не гавару ні аб расейскім праваслаўі (аджыло свой век!) ані аб польскім каталіцызьме, каторы ўступіў у нас на шлях казёншчыны. Я гавару аб Беларускім Уніянізьме, каторы знае адну веру ў розных формах і каторы мае сваю гісторыю, поўную навукі для сучаснага пакаленьня. Беларускі Уніянізм мае быць чыстым хрысьціянствам. Яго традыцыя плыве аж ад сьвятой Праксэды Полацкай, каторая знала Усход і Захад хрысьціянства. Нажаль гэты Уніянізм перайшоў між Сьціллай і Харыбдай палітыкі польска-расейскай і затое мусіў пакрывіцца ў змаганьні. А крывізна гэта ўвайшла навет... у падручнікі беларускай гісторыі... Мы аднак-жа чэрпаем з глыбіні рэлігійнай душы народнай сьветлы энтузіязм на будучыну; тэй душы, што здатна адчуць праўду прасьцейшай дарогай; душы незапутанай у зманныя формы шкалярства. Народ наш створыць еднасьць рэлігіі Усходу і Захаду. Ен—або ніхто. Будзе яна выспаю натуральнаю яго духу рэлігійнага; духу, каторы ў глыбіні сваёй не зламаўся пад згаршэньнем, якое далі вышэйшыя станы; духу, каторы моцны быў у змаганьні з цараслаўем і польскаслаўем; духу, каторага мучаніцтва не апісаў яшчэ ніхто. Усё цяпер трэба будаваць нанова, тварыць «ex nihilo», бо і жывём-жа ў часах, калі ашацаваны ўжо ўсе вартасьці, калі над старым сьветам (а мо' і над старой цывілізацыяй) завісьлі бурныя „mane, tekel, fares“; калі, як у Апокаліпсе, здаецца кажа Дух Божы: „Ecce omnia facio nora“ („Вось усенька ствараю нанова“). Павіннасьць духовага будаўніцтва ляжыць на інтэлігэнцыі, не на інтэлігэнцыі ў значэньні будным, але на інтэлігэнцыі творчай, сьведамай свайго вышэйшага названьня. Абавязак наш першы: вырваць душу народу з кіпцяў блуднага ўплыву чужакоў, каторыя выставілі душу народу на гандаль, каторыя забілі яго рэлігійную творчасьць, змусілі яго хавацца з сваім сьветаглядам прад насьмешлівым вокам культуртрэгэра з Усходу ці Захаду. Трэба стварыць на Беларусі атмосфэру рэлігійнай свабоды, ня выкідаваць справаў сумленьня за парог нашых праграмаў, бо, аддаўшы гэту справу ў цёмныя рукі, зробім памылку, каторай пасьледзтвы не паддаюцца папросту лічбе.

Асновай гэтых маіх разважаньняў было даказаць, што: 1) для разьвязаньня справы рэлігійнай на Беларусі трэба брацца чыстымі рукамі і інтэлігэнтнай воляй, бо нельга з ботамі лезьці ў тайніцы народнага духу, 2) Беларуская інтэлігэнцыя няхай не бярэць прыкладу ад некаторых суседзяў, што, недацаніўшы ўплыву рэлігіі на ўзгадаваньне душы народнай, скінулі яе да ролі нейкага дэвоцыйнага культу пустых формаў. Формы патрэбны, але яны небясьпечны. «Дух творыць, цела мала значыць». Рэлігія ўспамагае трудавітасьць нашага духу і такую рэлігію мы мусім мець, 3) з усіх рэлігійных формаў хрысьціянства, ў Беларусі вытварыўся рэлігійны Уніянізм двух абрадаў: славянскага і лацінскага. Ад аднаго жывець у нас толькі мучаніцкая традыцыя, ад другога—лацінства, заквашанае сільна, так званай „польскай верай“. З двух варожых каламутаў заходняга псэўдорацыяналізму і ўсходняга бізантынізму паўстаць мае наш родны: Беларускі Уніянізм.

**Каз. Св.**

## Пісьмо ў рэдакцыю.

Пане Рэдактару!

Дзеля таго, што нумар „Nowin Wileńskich“, у якім было зьмешчана маё пісьмо аб неправўдзівасьці брахні, якую распаўсюджвае агэнтура „East Espress“ пра Літоўскую Гімназію, быў конфіскованы, а рэшта польскай прэсы паўтарае інсынуацыі агэнтуры, або тэндэнцыйна маўчыць пра нязвычайныя факты, дык я прашу Вас не адмовіць у зьмяшчэньні ў Вашай шаноўнай часопісі ніжэйпаданага:

Пакідаючы без адказу інсынуацыі і брахню „Rzeczypospolitej“ і «Gazety Wileńskiej», бязупынна паўтараныя праз іх аб літоўскай гімназіі і аб ніжэй падпісаўшымся, я лічу сваім абавязкам паправіць рад „няточнасьцяў“, якія ёсьць у паведамленьнях „East Express“, друкаваных у гэтых газэтах аб здарэньнях 1-га

# Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

**(Рэфэрат, чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 8 лістапада 1920 г.).**

(Гл. № 15).

А Троцкі тымчасам згуляў нягодную ролю ў Берасьці пры візваньні праезду туды на міравыя перагаворы беларускай дэлегацыі.

Дэклярацыя, якую мела падаць у Берасьці беларуская дэлегацыя, была апрацована Гутманам, разьмерам сваім была ня зусім малая і адзін з яе пунктаў літаральна паўтараў ужо зробленую Троцкім заяву, каб зруйнованыя вайною гаспадаркі былі адноўлены за рахунак міжнароднага фонду ваяваўшых дзяржаваў. Наагул дэклярацыя была вельмі дэмократычнаю і, зацьверджаная 19 студня 1918 г. Выканаўчым Камітэтам, яна была даручана дэлегацыі дзеля зложэньня яе ў Берасьці.

У дэлегацыю былі выбраны: Цьвікевіч, Рак-Міхайлоўскі і Серада. Першыя два, доўга ня думаючы направіліся праз лінію акопаў расейска-нямецкага фронту ў Берасьце, споўняючы даную ім задачу. А трэйці, Янка Серада, ніяк ня мог адважыцца ехаць сьледам за першымі двама дэлегатамі; невядома чаму і як ён ад іх адбіўся, і некалькі раз зьяўляўся ў Вайсковую Раду, сябром якое быў, з невялічкім саквояжам у руках, каб зрабіць выгляд, што ён сапраўды замерваўся ехаць. Невядома толькі, ці хоць раз даехаў Серада навет да самога Менскага вакзалу.

Цьвікевіч і Рак-Міхайлоўскі перайшлі фронт у кірунку Баранавіч. Нямецкая вайсковая часьць, што там стаяла, прыняла іх, як трэба, нарыхтаваўшы ўжо й вагон дзеля ад'езду ў Берасьце, як раптам, пасьля тэлеграфнага запытаньня, адтрымала паведамленьне, што Троцкі (галава расейскай міравой дэлегацыі) ніякае Беларусі не прызнае і ня можа дапусьціць, каб на міравых перагаворах Беларусь прадстаўляў нехта іншы, апрача яго, Троцкага. Віза на праезд беларускай дэлегацыі ў Берасьце ня была дана і заставалася толькі шукаць іншых шляхоў праезду.

У той час, як ад імя Расеі з немцамі гаварыў Троцкі, ад імя Украіны там-жа ў Берасьці гаварыў Галубовіч і інш. Цэнтральная Украінская Рада ў Кіеве выпусьціла чацьвёрты Унівэрсал, абвяшчаючы Украіну незалежнаю Народнаю Рэспублікаю і адначасна з тым Украінскі Урад (Гэнэральны Сэкрэтарыят) абвясьціў вайну бальшавіком, як прадстаўнікам маскоўскага імпэрыялізму. Расейска-Украінская вайна пачалася і прывяла да поўнае няўдачы Украіну.

Беларуская дэлегацыя прылучылася ў Сарнах да апошняга украінскага эшалону, які вывозіў Цэнтральную Раду заграніцу.

Украінцы пабратэрску прынялі беларускіх дэлегатаў і направілі іх у Берасьце пад выглядам консультантаў дэлегацыі украінскае.

У Берасьці Цьвікевіч і Міхайлоўскі мелі гутарку з сэкрэтаром нямецкага міністра заграпічных справаў Кюльмана і там выясьнілася, што дзеля дапушчэньня на міравыя перагаворы проста не хапала шмат якіх момэнтаў юрыдычнага характару. Галоўным дэфэктам мандату беларускай дэлегацыі было тое, што зьявілася яна не ад Ураду Беларускага, якога тады яшчэ ня было, а ад Выканаўчага Камітэту Ўсебеларускага Зьезду. А ці-ж мала якіх Зьездаў адбылося ў Расеі пасьля рэвалюцыі?

Аднак у той час, як гэткія размовы беларускіх дэлегатаў з немцамі вяліся, ў Менску ўжо быў Беларускі Урад, ня толькі проклямованы, а і фактычны. Урад гэты ня меў сувязі з Берасьцем і нічога ня ведаў аб працы дэлегацыі, якая, ў сваю чаргу, ня ведала, што робіцца ў Менску.

А ў Менску насьпелі ўжо падзеі, якіх трэ' было спадзявацца.

Пасьля рашучага жэсту Троцкага ў Берасьці, дзе ён у адказ на прамову нямецкага гэнэрала Гофмана заявіў аб тым, што Расея не падпіша міру, але й ня будзе далей ваяваць, немцы аддалі прыказ аб наступленьні на іх Усходнім фронце. Развалены расейскі фронт, ані ня мог працівіцца жалезнай стройнай яшчэ сіле кайзэраўскай арміі, якая брала адзін за адным гарады Беларусі, едучы сабе чугункаю. Менскія бальшавікі да апошняга момэнту запэўнялі насяленьне сваімі адозвамі, што застануцца на месцы, быццам сапраўды верачы, што працоўны народ будзе бараніць органы, свае нібыто, ўлады. Яшчэ ўпоўдзень 10 лютага, калі ўсе самаходы бальшавікоў шалёна працавалі, пакуючы іх у цягнікі, па сьценах менскіх дамоў разьлепліваліся ў сказаным духу адозвы. Беларусы з Выканаўчага Камітэту й Вайсковае Рады зраньня ў гэты самы дзень выпадкова згрупаваліся ў „Беларускай Хатцы“ — сталоўцы на Захараўскім завулку пад № 6-м. Сюды забег перапуджаны матрос Муха, ад якога даведаліся, што „народныя“ камісары ўжо пасьпешна пакуюцца ў цягнік, ня гледзячы на ўсе іх красамоўныя адозвы.

Я і сябра Вайсковай Рады, Язэп Мамонька, адразу з Беларускай хаткі направіліся ў адну з казармаў, дзе, пасьля прамовы Мамонькі, два бальшавіцкія батальёны збунтаваліся. Хаця камітэт гэтае вайсковае часьці ўжо нарыхтаваў варту, каб нас арыштаваць, але сам быў арыштованы збунтованымі жаўнерамі; а ўночы гэтага самага дня, 19 лютага, вельмі спатрэбіліся жаўнеры гэтае самае казармы.

Выходзячы з Беларускае хаткі на рог Захараўскай вуліцы й Захараўскага завулку, мы заўважылі, што два бальшавіцкія самаходы наехалі адзін на

кастрычніка, дзеля таго, што яны робяць уражаньне ўрадовых паведамленьняў, або, прынамсі, поўурадовых. Я затрымаюся толькі на галоўных.

1) Літоўская гімназія ня ўтворана з падмогай немцаў, як кажа „East Express“, але заснавалася ў 1915 г. адначасна з польскімі гімназіямі, існавала ў гэтакіх самых варунках, як і яны, ў бядзе ды ў страху перад нямецкім зьдзекам, і ня толькі не адтрымала ад немцаў ані гроша, але бязупынна змагалася з гэрманізацыйнымі стараньнямі окупацыйнае ўлады.

2) Літоўская гімназія ад першага дня свайго існаваньня была коэдукацыйнай. Жаночая гімназія пераняслася да яе ў 1919 г., выкінугая польскай уладай з памяшканьня на вул. Ожэшкавай.

3) Ніколі большасьць вучачыхся літоўскае гімназіі ня былі прывознымі з Ковеншчыны, а ў гэтым годзе лік ковенчакоў у гімназіі не даходзіў 10% агульнага ліку вучняў і вучаніц гэтае гімназіі (46 на 490). Узапраўды я клікаў і клічу ў гімназію літоўскую моладзь з усяе Літвы, бо хацеў-бы, каб віленская гімназія мела шырэйшы ўплыў, ня толькі як віленская, напамінаючы літоўскаму грамадзянству старую сталіцу Літвы, але яшчэ болей як такая, якая зьвязвае сваю працу з міцкевічаўскімі традыцыямі (не палітычнымі, а грамадзянска-этычнымі) і бярэ пад увагу польскую мову і літэратуру. Вось гэта тыя мае „палітычныя мотывы“, якія, ведама, сьцягваюць гнеў шовіністых з абодвых бакоў. Мае клічы дагэтуль ня мелі рэзультату, бо, напр., у гэтым годзе мы адтрымалі толькі пару новых вучняў з Ковеншчыны.

4) Літоўская гімназія, творачы паўзьбежныя клясы, кіравалася толькі пэдагогічнымі ўмовамі і бацькоўскімі жаданьнямі, што лёгка можна праверыць.

5) Ніжэйпадпісаны, гэтак сама, як і інш. спамянутыя „Е. Е.“ працаўнікі гімназіі, займалі толькі частку кватэр, якія перад вайной займала дырэктарка і працаўнікі расейскае гімназіі. Брат мой ня меў асобнай кватэры, а толькі начаваў у канцэлярыі гімназіі.

6) Літоўскую гімназію літоўскі ўрад утрымоўваў толькі ў канцы 1918 г. і на пачатку 1919 г., а ўвесь іншы час ажно да сёньняшняга дня утрымоўваецца з ахвяр амэрыканскіх ліцьвіноў, нягледзячы на тое, што яна ў канцы 1918 г. была праз гэты ўрад удзяржаўлена і, як такая, ўпісана ў лік урадовых гімназіяў.

7) Цьвярджэньне, што „вучні літоўскае гімназіі адтрымоўвалі выхаваньне толькі антыпольскае“, зьяўляецца фальшай: „антыпольскасьць“ можа ў іх зьявіцца хіба толькі чытаючы нагонкі J. O.—таў з Rzeczypospolitej“, альбо фальшы „Е. Е.“

8) Літоўская Гімназія абслужвае ня толькі Вільню, але й Віленшчыну і, праз гэта, ссылка на процэнт (nota bene фальшывы) Ліцьвіноў у Вільні пры рахаваньні іх культурных патрэбаў есьць зусім бязгрунтоўнаю.

9) У працягу цэлага прайшоўшага школьнага году ніхто мяне, як дырэктара літоўскай гімназіі, не папераджаў, каб меў шукаць для гімназіі іншага памяшканьня, нягледзячы на тое, што прадстаўнікі Дэпартамэнту Прасьветы няраз са мною бачылся, наведваючы школу. Навет камісія, якая здаецца ў жніўні бягучага году спісвала школьны інвэнтар, а складалася з прадстаўнікоў Дэпартамэнтаў Прасьветы і Адбудовы, на маё пытаньне ў гэтым сэнсе, не патрапіла нічога мне сказаць. І толькі па адтрыманьчі мною з Дэпартамэнту Адбудовы 23 жніўня пісьма з жаданьнем, каб гэта гімназія да 1 верасьня пакінула датуль займаны будынак (гэта было першае, а не паўторнае жаданьне), мой намесьнік п. Шыкшніс на свае пытаньне адтрымаў ад дырэктара Дэпартамэнту Прасьветы адказ, што мы за год маглі дадумацца, што будзем выселены і толькі, зьвярнуўшыся да гэн. Макржэцкага, адтрымалі прапазыцыю часова (да 1 сьнежня 1922 г.) працаваць у папалуднёвыя гадзіны. Аб тым, каб ня толькі гімназія, але й вучыцельская сэмінарыя адтрымала магчымасьць карыстацьня з папалуднёвых гадзінаў, даведваюся толькі з «Е. Е.», якое сапраўды маўчыць, што ў будынку літоўскае гімназіі адначасна можа працаваць толькі 17 клясаў; калі цяпер літоўская гімназія налічвае 19 клясаў ды сэмінарыя 5, дык хіба-ж ня можа быць гутаркі, каб толькі гэтыя дзьве школьныя інстытуцыі (а ёсьць іх болей і ўсе яны маюць пазваленьне працаваць у будынку літоўскае гімназіі) маглі ў папалуднёвыя гадзіны ўпарадкавацца?!

10) Яшчэ раз сьцьвярджаю, што за гэты будынак я бароўся з Немцамі й бальшавікамі.

11) Няпраўда, што вучыцялі інсцэнізавалі абарону школы. Да апошняга момэнту вучыцялі ня верылі, каб прасьветныя ўлады высялілі ліцьвіноў з неабходнага для іх культурнае працы будынку і яшчэ 1 кастрычніка супакойвалі вучняў, калі тыя зьвярталіся да іх, пытаючыся пра гэта. Вучні літоўскае гімназіі, скончыўшы лекцыі, пашлі а 1 гадзіне дадому, а а 2-й пачалі зьбірацца вучні гарадзкое школы й вучыцельскае сэмінарыі на лекцыі, якія ў іх адбываюцца ў папалуднёвыя гадзіны. Вучні гімназіі пачалі зьбірацца перад будынкам няхутка па прыбыцьці паліцыі.

Як вучыцялі гарадзкое школы й вучыцельскае сэмінарыі, што знаходзіліся на лекцыях у будынку гімназіі, так і некалькі гімназіяльных вучыцялёў перад будынкам стараліся стрымаць узбураную моладзь ад дзейнага выступленьня. Паліцэйскія ўвайшлі ў будынак не бяз зброі, але з зброяю (ня мелі толькі гарматаў і кулямётаў). Няпраўда, што быццам колегі Кайрукшціс і Нагінскі мелі кіраваць сираціўленьнем дзяцей. У паліцэйскім пратаколе сьцьверджаны толькі адзін іх праступак, што ў часе літоўскага гымну стаялі бяз шапак, як, урэшце, ня толькі кожны Ліцьвін, але й шануючы сябе Паляк паступіў-бы, будучы на іх месцы. Няпраўда, што быццам хто-колечы крыкнуў: «проч з Польшчаю». Калі я быў выведзены паліцыяй (каля 8-й гадзіны ўвечары), ня толькі ніхто не спаткаў мяне гымнам, як цьвердзіць „Е. Е.“, але папросту нікога ня сустрэў я, апрача пары паліцэйскіх, бо публіка была ўжо разагнана. Частка польскай публікі сабралася выпадкова—нажаль, былі сярод яе батораўкі й вучнёўскія шапачкі—і мела яна дзейнае дачыненьне ў біцьці літоўскіх дзяцей. Паліцыя біла прыкладамі, а «публіка» палкамі і шпіцрутамі і кулакамі. Прозьвішчы пашкоджаных, якіх толькі частку ўдалося устанавіць, агалошаны ў «Vilnius‘e»; ёсьць паміж ім дзеці семгадовыя. Апошняя партыя паліцэйскіх, што мела дачыненьне ў „разгоне“ была нецьвярозая. Некалькі паліцэйскіх, што былі ў гімназіяльным будынку й былі ўжыты проці вучняў, заявілі мне, што калі-б ведалі, што пашлюць іх, «біць дзяцей» (паўтараю дасловна), дык ня прышлі-б.

У канцы „Е. Е.“ падае нейкую баламутную вестку аб «пэдагогічнай гімназіі», аб якой ліцьвіны нічога ня ведаюць.

**Міхал Біржышка.**

Дырэктар 1-е Віленскае Мужчынскае Гімназіі (Літоўскае Гімназіі).

# З ПРЭСЫ.

## Аб гэнэрале Довбор-Мусьніцкім і „заслугах“ яго арміі.

Пад гэткім загалоўкам у лодзінскай газэце „Łodzianin“ № 309 (137) J. Kudlikowski, Radny m. Bobrujska z P. P. S. зьмясьціў вельмі цікавы артыкул, які і падаем у перакладзе.

Зьмяшчаючы артыкул, Рэдакцыя „Łodzianin‘a“ робіць гэткі невялічкі ўступ да яго:

„Шторaз часьцей у эндэцкай прэсе зьяўляюцца весткі аб закліканьні „бастуючага“ гэнэрала Довбор-Мусьніцкага „на высокае“ вайсковае становішча. Не спамінаючы гісторыі з золатам і ўхіляньнем Мусьніцкага ад службы падчас бальшавіцкай навалы, як роўна-ж яго эндэцкіх згавораў проці польскае дзяржавы, зьмяшчаем пісьмо тав. Кудлікоўскага, які дакладна характарызуе заслугі п. гэнэрала“.

П. Кудлікоўскі піша:

„Урэшце адклікнуўся і „польскі жаўнер“, той, аб якім цяпер грыміць слава ад Дняпра па ўсёй зямлі Беларускай, той самы жаўнер, аб якім у беларускім народзе застаўся ўспамін, як аб няшчасьці, якое страслося над зямелькай, аб каторым успамінае, праклінаючы. Польскі жаўнер, той самы, якога цэлыя транспорты, пасьпяшаўшыя да Карнілава былі затрыманы ў Жлобліне; які, як казалі, „па варожых трупах“ прыйшоў у Бабруйск, змагаючыся за Бацькаўшчыну паноў. Калі была ахоплена полымем беларуская зямля—гэта былі добрыя часы, перамога над хамаўём. І што-ж тады казаў слаўны камандзер? Вось калі на сходзе павятовай рады, адзін з радных сказаў, што „сэрца сьціскаецца ад жалю, сьлёзы зьяўляюцца ў вачох, не магу гаварыць, бо за што, Гэнэрале, гараць беларускія вёскі, за што прападаюць няшчасныя дзеткі, калі нехта вінаваты, дык той павінен быць пакараны!“ Гэнэрал адказаў, як звычайны царскі сатрап, што цяпер ваенныя часы, часы дзеяньня, а ня сьлёз. І ўзапраўды нікога не шкадавалася, ні жанчын, ні старых, ні дзяцей. Гэткую свабоду на сваіх штандарах нясьлі войскі Мусьніцкага сваім чужым.

З'ігідзелі і зьбяшчэсьцілі польскае імя сярод беларускага народу, уваскрасілі слаўныя традыцыі „карацельных экспэдыцыяў“ з 1906 г. За забойства аднаго жаўнера палілі цэлыя вёскі.

А як гулялі ў Бабруйску, як разпаўсюджвалі „славу польскага імя“ можа пасьведчыць хроніка „Бабруйскага Голасу“, які штодня памяшчаў (навет пад цэнзурай І Корпусу) бязупынныя напады, кражы і грабежствы, учыняныя праз людзей, апранутых у мундзеры польскага корпусу. Расстрэлы бяз суда „за бальшавізм“ былі ў Бабруйску штодзенным зьявішчам.

А слаўны бандыцкі напад, які зрабілі жаўнеры І гэн. Корпусу ў фальварку Папялянка, а стрэлы афіцэраў на вуліцы ў дзяўчат, якія не пазвалялі зацягнуць сябе ў гасьцініцу, — гэта каплі ў моры азьвярэньня роднага салдацтва.

Дух польскага юнкерства пранікаў слаўную афіцэрскую легію, якой галоўным прынцыпам было „молчать и слушать“. Апрача ожэлкаў на шапках і польскай каманды была гэта чыстакроўная, без цара, царская армія.

А што рабілася, калі захоплены былі магазыны, тылавыя склады, вялізныя запасы расейскай арміі ў Бабруйску?.. Пайшло гэта ў рукі жыдоўскіх спэкулянтаў, якім слаўныя „польскія патрыёты“ дапамаглі нажыць мільёны.

А хто прычыніўся, калі ня І Корпус, што нямецкая армія кінулася, як

---

адзін, моцна разьбіўшыся. Камісары вылезьлі з самаходаў, пайшоўшы на вакзал пехатою. Па месьце пачалася нейкая бязглуздая страляніна, якая падвечар яшчэ болей узмацнілася. Кожны абыватаць лічыў чамусьці за свой абавязак выйсьці ў браму і стрэльнуць некалькі разоў угару. Позьнім вечарам 19 лютага Выканаўчы Камітэт (ня ў поўным, праўда, сваім складзе) скончыў сваё апошняе нелегальнае пасяджэньне на Садовай вуліцы пад № 10 у кватэры Гутмана, апрацаваўшы першую Устаўную Грамату да Народаў Беларусі.

Тымчасам сябар Вайсковай Рады і Рады Ўсебеларускага Зьезду, Язэп Мамонька, амаль што не адзін заняў быўшы Губэрнатарскі Дом, дзе дасюль зьмяшчаўся „Совет Народных Комиссаров“. Бальшавікі былі так перапуджаны, што пакінулі ўсё, ратуючы сваю партыйную скуру. Портфэль самога камісара ўнутраных справаў, вядомага ўжо нам, Рэзаускага дастаўся на памятку ў рукі Мамонькі. Уся канцэлярыя, чыстыя блянкеты (кніжкі) заграпічных пашпартоў пакінены былі ў Губэрнатарскім Доме. Вайсковыя аддзелы, штабы фронту і 10 арміі палявыя і губэрнскае казначэйствы, пошта і ўся іншая адміністрацыя—ўсё засталося ў Менску. Нейкі час трывала гэткае палажэньне, што ў Менску фактычна прабывалі дзьве ўлады: адна ў Губэрнатарскім Доме—Выканаўчы Беларускі Камітэт—другая на вакзале—народныя камісары, якіх чугуншчыкі затрымалі, трэбуючы выплаты 3-х месячнае пэнсіі. Да 6 гадзіны раніцы 20 лютага 1918 году чугуншчыкі не хацелі пусьціць цягнік з народнымі камісарамі, нягледзячы на пагрозы артылерыяй і інш.

У Оршы, ў гарнізоне знаходзіўся беларускі эскадрон кавалерыі ротмайстра Якубені; туды сябар Вайсковай Рады, Шыла, даў тэлеграму арыштаваць у дарозе народных камісараў, што ўцякалі з Менску. Шмат меў клопату Якубеня, калі быў арыштованы пасьля перахвату гэтай тэлеграмы бальшавікамі.

Вайсковыя палякі ў Менску і Rada Polska Ziemi Mińskiej гэтак сама, як кажуць, не драмалі і загатовілі ўжо навет кароценькую абвестку што заўтра (20 лютага) ў Менск увайдзе І польскі корпус гэнэрала Довбор-Мусьніцкага, якому й належыць цяпер уся ўлада.

У той-жа вечар, 19—II, Старшыня Выканаўчага Камітэту, Варонка, пасьпеў пабываць у Польскім Камітэце і яго, аднак, там не чапалі. Як толькі сьцямнела, на вуліцах Менску зьявіўся самаход з азброенымі польскімі жаўнерамі, якія, праўда, нікога з беларусаў не чапалі, ня гледзячы на тое, ці ведалі яны пароль, ці не.

Варта было толькі на пытаньне „хто ідзе“ адказаць—„беларусы“ і ніякога непаразуменьня не паўставала. Праўда, што жменька палякоў на самаходзе была вельмі малая, але ня большая сіла была і ў беларусаў. Хаця адначасна з пасяджэньнем на Садовай вуліцы Выканаўчага Камітэту, на Скобелеўскай вул. № 9 у кватэры старых беларусаў Уласава й Лявіцкага засядалі сябры Вайсковай Рады, але-ж з нічога стварыць аружную сілу было адразу немагчыма. На падмогу справе выступіла Беларуская Вучнёўская Грамада, моцны гурток беларускае моладзі, які, стыхійна азброіўшыся, і поўніў, так сказаць, ролю Беларускае Нацыянальнае Гвардыі, вартуючы Губэрнатарскі Дом. Дзіўна было для вайсковага вока бачыць хлопцаў і дзяўчат, што атачылі рэзыдэнцыю Выканаўчага Камітэту—быўшы Губэрнатарскі Дом—маючы на сваім плячох часамі навет па дзьве стрэльбы. Старажы Беларускага Ўраду былі маладыя, але верныя.

Настрой грамадзянства быў на старане беларусаў і ўсякая варта ў гэты момэнт для самога Ўраду магла й не існаваць.

Камэндантам гораду быў назначаны, уцёкшы ўжо з-пад бальшавіцкага арэшту, Таварыш Старшыні Вайсковай Рады К. Езавітаў, які пачаў адразу фармаваньне 1-га Беларускага палку.

Камэндат працаваў дасканальна, нягледзячы на стыхійную страляніну ў горадзе, ніякіх эксцэсаў заметна ня было.

Камэндантам у арсэнал быў высланы малады афіцэр, сябар Вайсковай Рады, Гайдук, які чамусьці першым чынам начапіў на свае плечы навюсенькія пагоны штабс-капітана. У арсэнал наскочыў польскі палкоўнік з 8 жаўнерамі, што, з пазваленьня Гайдука, начал цягаць на вазы зброю і кулямёты, якіх шмат было ў складах арсэналу. Калі з арсэналу паведамілі, што гэткае там робіцца, я асабіста выехаў туды на самаходзе. Там мяне спаткалі знаёмая ўжо варта арсэналу—жаўнеры якраз з тае казармы, якую мы з Мамонькаю раніцай збунтавалі. Я выслаў Гайдука ў Губэрнатарскі Дом, ухіліўшы яго гэтым ад абавязкаў камэнданта ў арсэнале, а варце прыказаў забараніць палякам вываз зброі з арсэналу. Варта арсэналу налічвала больш, як 80 чалавек проці 8 палякоў, якія, кінуўшы арсэнал, пайшлі, як яны казалі, раззбройваць бальшавікоў.

Здарэньне ў арсэнале магло ўжо вельмі добра засьведчыць, што перадавыя часьці польскага корпусу гэн. Довбор-Мусьніцкага мала лічацца з фактам утварэньня ў Менску Беларускага Ўраду, а проста захапляюць, што толькі могуць. Далейшае паказала, што нягледзячы на устанаўленьне ў Менску злучанае польска-беларускае камэндантуры (па ініцыятыве палякоў) з пошты, дзе было каля 13 мільёнаў рублёў грошай, былі зьняты польскімі легіянэрамі беларускія ахвотніцкія пасты, а грошы ўсе забраны й адвезены ў Бабруйск, дзе была галоўная кватэра Довбор-Мусьніцкага. У Менску чамусьці пачаліся эксцэсы якраз у той часьці гораду, якая належала да беларускай камэндантуры і вінавайцамі гэтых эксцэсаў чамусьці здараліся асобы ў форме польскіх легіянэраў.

**Краўцоў Макар.**

(Працяг будзе).

хваля, тады як бальшавікі не падпісалі берасьцейскага міру.

Нямецкія жаўнеры, ўсаджаныя ў цягнік, над каторым загад быў у руках I Корп. ад Асіпавіч да Жлобіна ехалі, як „хаўрусьнікі“ зброі на помач ваюючым аддзелам I Корп. пад Жлобінам.

Дык-жа ганарова ад'значыў гэта комунікат нямецкага штабу. Ці гэта была, барацьба за Бацькаўшчыну?

Польскі народ ніколі не забудзецца, што п. Мусьніцкі дабравольна аддаў немцам аграмадны баявы матар'ял, вялізныя склады ўзрыўчатых матар'ялаў і тэхнічных, каторыя былі гэтак, ці інакш скіраваныя проціў нас самых.

Сучаснасьць аб гэтых фактах выдала строгі суд, а будучына таксама выдасьць заслужаны прыгавар.

Прыказка кажа, што „jaki pan taki kram“.

Іншае становішча занялі жаўнеры-грамадзяне пад Каневам, бо прысьвячалі ім вялікія ідэі Пілсудскага, якія ў патрэбе казалі ім гінуць „як каменьні, Богам кіданыя на шанец“.

Трагі-камэдыя 1 корп. Мусьніцкага закончана, ўспамін аб гэтай гісторыі будзіць горач і нясмак...

У пэрыядзе дэмократызацыі нашага дзяржаўнага жыцьця на чало народу павінны быць высоўваны людзі „bez skazy i zmazy“.

Высоўваньне на чало будучай арміі п. Мусьніцкага—гэта вызаў, кінуты дэмократычнай, рабочай і народнай старане ў Польшчы, гэта падтрымоўваньне польскага юнкерства і дыктатуры арыстократыі і плютократыі ў Польшчы!

Гэткае палажэньне мусіла-б выклікаць неспакойствы й перавароты, хіба толькі дзеля ўнараўленьня амбіцыям адзінак.

Як радны П. П. С. места Бабруйску ведаю, што утворана ў Менску спэцыяльная камісія, якая мае пераказаць патомству гвалты 1 корпусу. Дык, вось, хутка даведаемся больш...“

# Замежныя весткі.

### Вынікі гадавой працы.

Істнуючы у Ліцьве Беларускі Асобны батальён 27 верасьня спраўляў сваe першыя ўгодкі. Не датыкаючыся працы істнуючых на паперы беларускае асьветнае камісіі, беларускае вайскова-гістарычнае і музэйнае камісіі, затрымаемася толькі на працы «камісіі на перакладу статутаў». Гэткая камісія была заложана яшчэ пры пачатку батальёну, у яе ўвайшлі афіцэры батальёну і ўраднікі міністэрства беларускіх справаў п. п. Шэйф і Казячы, мусіла яна перакласьці каманды і статуты з літоўскае мовы на беларускую. Трэба заўважыць, што літоўскія статуты шмат у чым адрозьніваюцца ад даўнейшых маскоўскіх. Прайшоў год; за 365 дзён шмат, ой шмат можна была перакласьці і апрацаваць і што-ж? А ніводнага слова, а ніводнага радка ў беларускай мове. Выданы нейкія брашуркі па пытаньнях выхаваньня і навучэньня жаўнераў, але толькі памаскоўску. Чаму такая пагарда ў Камісіі да роднае мовы, чаму ўсюды ў батальёне пануе маскоўшчына, гаспадарацъ маскоўцы?

**N.**

### Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе Чэскай.

Прага, 3. 21. З 24. IX. 1921 пачалі зьяжджацца ў Прагу прадстаўнікі беларускага народу з усіх канцоў Беларусі і з беларускіх колёніяў па-замежамі.

Першымі прыехалі прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасьці ў Лацьвіі і Ліцьве.

25. IX. 21 а 5 гадзіне ўвечары ў Hotel Graf адбылася папярэдне-арганізацыйная прыватная гутарка сабраных дэлегатаў, якіх ужо налічвалася 30 чалавек.

26. IX. 21 аб 11 гадзіне зранку ў Рэпрэзэнтацыйным Доме чэскага народу адбылося ўрачыстае адчыненьне Нарады.

Адчыніў Сход п. В. Захарка прамовай аб сучасным становішчы Беларусі, дзякуючы якому прадстаўнікі народу беларускага і яго Урад павінны зьбірацца за межамі Бацькаўшчыны.

Затым зьезд віталі прадстаўнікі розных народаў, з якіх асабліва сардэчныя прамовы і пажаданьні былі выказаны з боку украінцаў, жыдоў і велікаросаў.

Ад украінцаў віталі украінскі с.-р. поэт Мікіта Шапавал, с.-д. Мартос і прадстаўнік украінскіх студэнтаў.

Ад расейцаў — эс-эры Лазараў і Гурэвіч.

Апроч таго, выступалі з прывітаньнямі прадстаўнікі Кубанскай Рады, Казацтва, Грузіі і інш.

Пасьля прывітаньняў ад гасьцей былі прачытаны прывітальныя тэлеграммы ад розных асобаў і арганізацыяў, і Нарада перайшла да слуханьня прывітаньняў ад дэлегатаў з месц (Латгалія, Літва, Горадзеншчына і Віленшчына) і ад Беларускай Дзяржаўнай Рады і Ураду.

У 12 г. 30 мінут Нарада выбрала прэзыдыум, ў складзе:

Старшыня—А. Цьвікевіч,
Тав Стар.—В. Захарка,
Сэкрэтар —Баран,

і приступіла да апрацоўкі парадку працы Конфэрэнцыі, і падзелу на сэкцыі, якіх выдзелена было чатыры:

Палітычная,
Эканамічная,
Культурна-Прасьветная і
Гуманітарная.

Затым былі зацьверджаны высунутыя папярэдняй нарадай Мандатная і Гаспадарска-Сэкрэтарская Камісіі і выбрана дэлегацыя для прывітаньня Чэскага Ураду

У 13 г. 5 мінутаў Першы Сход Конфэрэнцыі зачыніўся, і дэлегаты былі сфотографаваны ў залі.

Далейшая праца адбылася гэткім чынам: ад 9 гадзін да 12 гадзін штодня адбываўся пленарны адчынены Сход ад 3 гадз. да 6 гадз. — Паліт. Сэкцыі
„ 6 „ „ 8 „ — Эканамічнае,
„ 8 „ „ 9 „ —Культ.-Прасьвет.
„ 9 „ „ 10 „ — Гуманітарнае
і 10 „ „ 12 „ а часам і да 2 і 3 г. працаваў Прэзыдыум і Рэдакцыйн. К. а таксама Бюро Друку.

29. IX. 21 — Нарада была ўрачыста зачынена, але ўсе дэлегаты засталіся яшчэ ў Празе для працы ў розных камісіях, якія былі Нарадай выдзелены.

30. IX. 21 — Дэлегацыя Нарады была ў Міністра Міжнародных Справаў і Міністра-Прэзыдэнта Чэхіі гр. Бэнэша а таксама ўскладала вянок на магілкі 43 чэскіх ваякаў — герояў і пайшла пакланіцца старэйшай і наслаўнейшай памятцы беларускага друку — бібліі д-ра Ф. Скарыны, якая перахоўваецца ў Пражаскім Музэі.

У гэты-ж дзень увечары дэлегаты заслухалі даклады з месц тых дэлегатаў, якія спазьніліся на Нараду па незалежных ад іх варунках, і пастанавілі прабыць ў Празе да 3. X. 21., каб ўсе дэлегаты, што затрымаліся ў дарозе, мелі магчымасьць зрабіць свае даклады.

Рэзалюцыі і дробнасьці кожнага сходу будуць дадзены дадаткова.

(„Б. В.“).

# Палітычная хроніка.

*Пятніца, 7 кастрычніка.*

— 4 г. м. а 4 гадз. ўночы выехала ў Харкаў польскае пасольства ў Сав. Украіне з п. Фр. Пуласкім на чале.

— Паводлуг статыстыкі парляманцкага бюро Чэхаславакіі, сучасныя групіроўкі ў чэхаславацкім Сойме гэткія: агулам 265 паслоў, з іх чэх.-слав. соц.-дэмократаў—48, аграрыяў — 41, народна-каталіцк. партыі — 33, злучаных камуністых усіх народнасьцяў рэспублікі — 26, нацыянальных соцыяліст.—25, нац. дэмократаў — 19, прадст. сярэдн. прамыслов.—7, левых соцыял. — 4, незалежн. соц.—3. Апрача гэтага—нямецк. с. д.—28, аграрыяў—13, нацыяналістых—12, хрысьц. соц.—9, нац. соц.—5, лібэралаў—2, клерыкалаў—6 і 3 соц.-дэм. вэнгерскіх.

— Рада Лігі Нар. ня прызнала патрэбным павялічваць склад сваіх сяброў.

— Бальшасьць украінцаў у Львове не запоўніла аркушоў народнай перапісі, пішучы замест гэтага, што з прычыны прызнаньня Вярхоўнаю Радаю Усх. Галіцыі за край, окупаваны польскім войскам, украінцы не прызнаюць прынцыпіяльна перапісі, загаданай польскім урадам.

— „Правда“ сьцьвярджае, што з 160 фабрыкаў Петраграду, зачынена 95. З 31.000 рабочых-друкаршчыкаў, працаваўшых у сталіцы перад бальшавіцкай рэвалюцыяй, засталося толькі 5.000. У Маскве запас апалу (дзерава) на зіму 1921—1922 г. на 80% ніжэйшы за запас 1920 г. Запас вугля зьменшыўся на 57%.

— Урад Злучаных Амэр. Штатаў прырыхтаваў статыстычныя ведамасьці на вашынгтонскую конфэрэнцыю аб раззбраеньні. З лічбаў выходзіць, што арміі 14 найбольшых дзяржаваў налічваюць 6 мільёнаў людзей: кітайская армія 1.370 тыс., Францыя 1.034 тыс., Англія 734 тыс., Польшча 150 тыс., Нямеччына 100 тыс., бальшавіцкая армія 538 тыс.

— Паўстаньне ў Індыі набрала характару партызанскага і праз гэто брытанцы ня могуць ніяк усьмірыць яго.

*Субота, 8 кастрычніка.*

— У зьвязку з абвяшчэньнем дэмобілізацыі арміі, польскае міністэрства вайсковых справаў забараніла даваць бестэрміновыя одпуск.

— У палітычных кругох Белграду (Югаславія) пануе пераканьне, што паміж Югаславіяй і Альбаніяй няўхільна адбудзецца збройны конфлікт.

— Нямецкі ўрад займаецца проектам прадажы дзяржаўных чугунак прыватнай арганізацыі нямецкіх капіталістых.

— Швэдзкі кабінэт міністраў падаўся ў адстаўку.

— Офіцыяльны орган Пятрушэвіча, што выходзіць у Вене піша, што напад на Начальніка Польскай Дзяржавы павінен быць пунктам выхаду ў справе украінскай і Усходняй Галіцыі.

— Прадстаўнік Сав. Ураду ў Польшчы Лявон Карахан меў пакінуць сталіцу Польшчы 7 гэт. кастрычніка. Гэта тлумачыцца сутнасьцю расейска-польскіх адносін і няўдачаю дасюляшняй Карахавай дыплёматычнай акцыі ў Польшчы.

— На Польшчу выпадае заплаціць у 1922 годзе 339.000 франкаў золатам у лік міжнароднага бюджэту на утрыманьне Лігі Народаў.

— Ангельская опозыцыйная прэса сьцьвярджае, што новая конфэрэнцыя Лёйд-Джорджа з дэ-Валераем зьяўляецца бязуможнай перамогаю гэтага апошняга.

— **На ўзор «Северолесу» рада народнай гаспадаркі Сав. Беларусі арганізуе «Западлес» для эксплёатацыі беларускіх лясных багацьцяў пры дапамозе заграничных капіталаў.**

— Урачыста абвешчана рэспубліка Цэнтральнай Амэрыкі, ў склад якое ўвайдуць Гватэмаля, Сальвадор і Гондурас.

— У Брусэль прыехаў Керэнскі дзеля учасьця ў конфэрэнцыі аб помачы галодным у Расеі.

— Чэскае прэсбюро паведамляе, што Ліга Народаў мае назаўсёды перанесьціся ў Вену.

— У Лібаве выкрыта камуністычная арганізацыя.

— У Рыгу прыбыў японскі прадстаўнік у Лацьвіі, Уеда.

— У Петраградзе адменена ваеннае палажэньне.

*Нядзеля, 9 кастрычніка.*

— Японскі імпэратар моцна захварэў; насяленьне лічыцца з магчымасьцю сьмерці.

— Армія Кэмаль-пашы мае маршаваць на Сьмірну, дзеля таго, што аб гэтым ён даў забавязаньне перад насяленьнем Анатоліі, выдаючы адозву аб сьвятой вайне. У Канстантынопалі пануе пераканаьне, што калі Францыя ня возьме на сябе пасрэдніцтва, дык збройны конфлікт паміж Кэмаль-пашою й Англіяй стане няўхільным.

— На міжнароднай конфэрэнцыі ў Брусэлі аб падмозе галоднай Расеі будзе мець учасьце Ватыкан, а таксама 127 дзяржаваў.

— На перагаворах віцэ-міністра Домбскага з Караханам знойдзена агульнае паразуменьне па ўсіх спрэчных справах, якія нядаўна паўсталі між Польшчаю й Саветамі.

— Вуніяцкі Мітрапаліт Шэптыцкі адтрымаў ад Папы місію скарыстаньня Расеі для вуніі з Рымам.

— Поўнамоцны міністар і пасол Швайцарыі прыбыў у Варшаву 8 г. м.

— У Кракаў мае выехаць камісар Лігі Народаў у Гданску гэнэрал Гакінг.

— „Lidowe Nowiny“ паведамляюць з Парыжа, што Ліга Народаў прыняла, як аснову для падзелу Верхняе Сьлезіі, лінію Сфорцы з папраўкамі на карысьць Польшчы. Гэткае разрашэньне справы зьяўляецца компромісам паміж паглядам ангельскім і французскім.

— „Rigos Balzas“ заклікае да Літоўска-латыскага злучэньня, выказваючы надзею, што граніца ня будзе, наступіць заключэньне ваеннай конвэнцыі і уніфікацыя валюты. лічыць таксама за пажаданае зваленьне з літоўскіх інстытуцыяў расейцаў і палякоў, замяняючы іх латышамі.

— У Варшаву выехаў новы апостальскі нунцыюш у Польшчы В. Тауры.

*Панядзелак, 10 кастрычніка.*

— Польскі міністар фінансаў падаў у Сойм проект закону аб спосабах папраўленьня дзяржаўнай фінансавай гаспадаркі. Проект прымусовага падатку будзе ўнесены ў Сойм міністрам фінансаў у пятніцу.

— Корэспондэнт „Neue Freie Presse“ запэўняе, што камісія чатырох запрапанавала Радзе Лігі Народаў падзел Верхняе Сьлезіі па лініі Сфорцы, іншыя газэты запэўняюць, што прынятая камісіяй чатырох лінія падзелу ёсьць крыху карысьнейшая для Польшчы, як лінія Сфорцы.

— 8 кастрычніка прыбыло ў Варшаву салённым цягнікам дыплёматычнае прадстаўніцтва Савецкай Украіны, разьмешчанае ў готэлі „Вікторыя“.

— 25 гэтага кастрычніка будзе адчынена ў Жэнэве трэцяя Міжнародная Конфэрэнцыя працы. Дэлегаты маюць быць у ліку каля 60 ад дзяржаваў, што ўходзяць у Лігу Народаў, а таксама й іншых, як Нямеччына і Злучаныя Штаты.

*Аўторак, 11 кастрычніка.*

— У шмат якіх нямецкіх фабрыках прадоўжана праца да 56 гадзін у тыдзень.

— У Бэрлін прыбыла дэлегацыя ад аўстрыйскае провінцыі Тыроль, каб прасіць нямецкі ўрад аб прылучэньні да Нямеччыны. Ня маючы ўдачы ў Бэрліне, дэлегацыя паехала ў Мюнхэн, каб прасіць аб прылучэньні да Баварыі.

— Польскае пасольства ў Маскве адтрымала ноту Чычэрына, які выразіў жаль з прычыны інцыдэнту з ваенным аташэ польскага пасольства палкоўнікам Волікоўскім, а таксама др. Колясінскім. Нота зазначае, што выясьняюцца акалічнасьці дзеля пакараньня вінаватых.

— У № 219 „Известий“ галоўны рэдактар гэтае газэты, Стеклов, піша: — цяпер ня толькі Польскі ўрад цадкрэсьлівае свае міравыя замеры і стараецца йначай вытлумачыць сваю ноту, але й польская прэса зьмяняе тон, Цяпер яна востра крытыкуе тайную дыплёматыю, якую робяць пэўныя авантурныя групы. Польскае грамадзянства, прынамсі, ня хоча ваяваць з Расеяй. Буржуазія Польшчы хацела-б лепш пачаць гандаль з Сав. Расеяй.

„Polpr.“ паведамляе, што з прычыны неапаражненьня дасюль кватэрантамі 30-х зрэквізованых пакояў у готэлі „Вікторыя“, прыбыўшая ў Варшаву украінская савецкая місія, пакуль што, месьціцца ў вагонах на Гданскім вакзале.

— Проф. Пэтражыцкі адтрымаў ад Лацьвійскага Ураду прапазыцыю заняць катэдры тэорыі права і соцыялёгіі ў Рыжаскім Унівэрсытэце.

*Серада,* 12 *кастрычніка.*

— Паводлуг статыстыкі, адтрыманай ангельскім міністэрствам гандлю й прамысловасьці, здабыча вуглю ў Злучаных Штатах за першага паўгода бяг. г. даходзіць 196,7 тон, а ў 1920 г.—257,6 тон. Яшчэ больш як на палову панізілася прадукцыя ў галіне жалезнага вытвару.

— Савецкі пасол у Варшаве зрабіў офіцыяльныя візыты паслом: нямецкаму, ангельскаму, чэскаму, лацьвійскаму, фінскаму і эстонскаму і быў рэвізытованы імі.

— Ангельскі прэм‘ер будзе старшынёю на першым пасяджэньні конфэрэнцыі з ірляндцамі. Формула дагавору аб прыняцьці дзяржаўнае еднасьці Англіі, з пагляду прэсы, значна зьмяніла думку сінфэйнэраў на карысьць гэтага дагавору.

— Маскоўскія газэты паведамляюць з словаў японскага тэлегр. аг., што ў Токіо пастаноўлена эвакуаваць японскія войскі з Усходняга Сыбіру.

— На прапазыцыю ангельцаў пачаць перагаворы з грэкамі Кэмаль-паша адказаў рашучай адмоваю.

— Парыскія газэты паведамляюць, што нарады Лігі Народаў не пасунуліся настолькі, каб магло адбыцца рашэньне верхнясьлезкага пытаньня.

— Як паведамляе „Morning Post“, кэмалістыя казьнілі 79 выдатных прадстаўнікоў грэцкага насяленьня. У ліку казьненых адзін епіскап.

— Румынскі прэзэс - міністар Авэрэску паслаў Чычэрыну ноту што пытаньне аб выдачы Махно й яго супрацоўнікаў можа вырашыцца толькі тады, калі бальшавікі абавяжуцца не казьніць іх сьмерцю.

*Чацьвер* 13 *кастрычніка.*

— Паводлуг поўофіцыяльных вестак з Жэнэвы, камісія чатырох у апошнім пасяджэньні займалася арганізацыяй міжсаюзнае камісіі для функцыянаваньня ў пераходны час у Верхн. Сьлезіі. Падзел Прамысловага району—пастаноўленая справа.

— У Лёндан выехала дэлегацыя нямецкіх рабочых у сувязі з весткамі аб рашэньні верхнясьлезкага пытаньня.

— Нямецкі канцлер Вірт, паводлуг „N. Fr. Presse“, ў выпадку неспагаднага рашэньня верхнясьлезкага пытаньня падаецца ў адстаўку са ўсім кабінэтам.

— 10 г. м. савецкае пасольства ў Варшаве першы раз вывесіла чырвоны сьцяг.

— У Празе мае адбыцца зьезд партыі расейскіх социялістых-рэвалюцыянэраў.

— У Лацьвійскім Сойме йдзе барацьба вакол справы высяленьньня жыдоў з граніцаў Лацьвіі. Сярод жыдоў пануе абурэньне з прычыны пастаноўленага права аб падданьсцьве, якое прызнана толькі за тымі жыдамі, якія 20 гадоў жывуць на тэрыторыі Лацьвіі.

— Фінская прэса паведамляе, што ў петраградзкім порце ўведзена ваеннае палажэньне.

— ВЦИК пастанавіў залажыць у Маскве дзяржаўны банк.

# Жыцьцё провінцыі.

### БАКШТАНСКАЯ воласьць,

Валожынскага пав.

Ў лесе нідалёка дарогі лясьнік знайшоў чалавечы шкялет (адны косьці). Мясцовая паліцыя дала знаць аб гэтым судзьдзі-сьледчаму, каторы распарадзіўся прызваць на месца знайды фэльчара, дзеля абсьледаваньня гэтых касьцей. Лекарскі памоцнік (школьны фэльчар) П. К., прыбыўшы на месца нахаджэньня шкялету, абсьледаваў яго і даў сваё заключэньне, што знайдзены шкялет невядомага чалавека належыць мужчыне гадоў 18—27. Косьці шкялету аказаліся далёка ня ўсе: яны былі парасьцяганы дзікімі зьвярамі і большасьць іх былі абгрызаны, а некаторыя паламаны. Адзежа была ўжо саўсім спарахнеўшы, але яшчэ магчыма было распазнаць, што сарочка, альбо нагавіцы былі з простага вясковага палатна; на ім была і цёплая фуфайка з воўны. Ніякіх дакумэнтаў пры нябожчыку ня знойдзена. Дзякуючы таму, што невядомы ляжаў у лесе найменей 2—3 гады і быў растурзаны зьвяр‘ём, — прычына сьмерці засталася неадгаданай: альбо ён быў забіты злым чалавекам, альбо застаўся ахвярай дзікіх зьвяроў. Яшчэ можна думаць, што сьмерць яго здарылася летам, бо на адзежы засталіся выразныя плямы ад чорных ягад (чарніцаў). К.

### Жыцьцё саюзу работнікаў земляробаў.

**Рэшанская вол.**, Віленск. пав.

15 верасьня сэкрэтар саюзу сельскагаспадарчых работнікаў П Невядомскі з інструктарам Лемяшом адведалі двор Букішкі Рэшанскай воласьці гр. Бажаранава. На сходзе работнікаў гэтага двара п. Станкевічанка ад імя ўсіх работнікаў жалілася, што п. Бажаранаў не пазваляе работнікам сеяць жыта на выработнікамі зямлі, пагражае што будуць выгнаны ўсе тыя работнікі, якія пасеюць для сябе жыта. У каго жыта было пасеяна, палову ўраджаю ўзяў у сваю карысьць пан, не адсыпаўшы павет насеньня і прадаў у Вэркі. Работнік Язэп Юшчынскі заявіў што п. Бажаранаў адмовіў прадаць яму жыта. У гэтым двары заложана арганізацыя саюзу, пры чым старшынёю выбраны Язэп Юшчынскі, скарбнікам Браніслаў Корсак і сэкрэтаром Марыля Станкевічанка.

### Вёска ПУЦІНІШКІ,

Рэшанскай вол., Зілен. пав.

17—IX у нашай вёсцы грамадзянін Невядомскі склікаў сход, на які сабралася 50 чалавек. На сходзе грам. Казімер Вайткевіч заявіў, што ў двары Забеліне ад пачатку вайны зямля ляжыць адлогам, а земляўласьнік гэтага двара сялянам абрабляць не пазваляе. За пашу набытку бярэ ад сялян сланіну, масла, яйцы і бульбу. Сабраныя аднагалосна протэставалі проціў таго, што кіраўнік двара Галіна, пан Чыркоўскі прыказаў траву загараць, а сялянам навет за плату пасьвіць набытак не пазволіў. Гэты самы пан рабіў перашкоды арганізацыі работнікаў. Пры размове з працаўнікамі саюзу маладая гаспадыня двара п. Вонславічанка пытала, як глядзіць на працу саюзу біскуп Бандурскі і заявіла, што калі па дварох будуць заведзены такія парадкі, як у Польшчы, дык яна ня хоча і належаць да Польшчы. У вёсцы заложана бібліятэка і аддзел Саюзу. Старшынёю выбраны Казюк Вайткевіч, Сэкрэтаром Адольф Вышадворскі і Скарбнікам Станіслаў Гурыневіч.

### М. КРЫНКІ, Горадзенскага пав.

Будынак, у якім месьціцца беларуская пачатковая школа — гэта быўшая жаноцкая царкоўна-прыхадзкая школа, пабудованая на кошт прыходу. Ен належыць праваслаўным, якія ў цяперашнім моманце сьвядомыя беларусы, жадаючыя вучыць сваіх дзяцей у роднай беларускай мове, дзеля чаго пад школу і занялі спамянуты будынак.

8 верасьня г. г. польскі вучыцель „powszechnaje szkoły“, ён-жа і кіраўнік тутэйшых школ, як польскіх, так і беларускіх, закрыў беларускую школу бяз ніякіх прычынаў. Вучыцель гэтае школы зьвярнуўся да інспэктара ў Горадне, каб даведацца, з якіх прычынаў закрылі яго школку; замест адказу, інспэктар звольніў яго, а дэлегата, які быў пасланы ад жыхароў м. Крынак аб жаданьні, каб ім адкрылі іхную, беларускую школу, пан павятовы інспэктар, узяўшы прыгавар, адправіў ні з чым.

Гэтым часам ужо ў м. Крынках беларускую пачатковую школу перахрысьцілі, у „powszechnuju szkołku“. У школу без свайго вучыцеля і пад гэткімназваньнем дзеці праваслаўных беларусаў перасталі хадзіць, а наведавалі яе толькі дзеці, пераведзеныя з польскае школы.

Гэтак і закрылі беларускую пачатковую школу—адну на ўвесь Горадзенскі павет, апроч Горадна.

(„Б. В.“).

# Беларуская хроніка.

### Парадкаваньне бібліятэкі.

А. Луцкевіч разам з гісторыкам п. Краскоўскім парадкуець цяпер багатую нацыянальную беларускую бібліятэку, якую зьбіраў усё сваё жыцьцё нябожчык Іван Луцкевіч і перад сьмерцю адказаў беларускаму грамадзянству. Бібліятэка неўзабаве будзе адчынена для карыстаньня з навуковымі мэтамі.

### Белар. гімназія.

Пытаньне аб чатырох старэйшых клясах 1-й Віленскай Беларускай Гімназіі дагэтуль застаецца адчыненым. Бацькі вучняў, пэдагогі Гімназіі, Т-ва Беларускае Школы і ўся беларуская прэса згодна і цьвёрда стаяць на сваім пункце, што гэтыя клясы ні ў якім разе ня могуць быць пераведзены з выкладовай беларускай мовы на польскую, закрыцьце-ж іх за адмову перайсьці на польскую мову зьявіцца нячуванай крыўдай беларускаму грамадзянству. Пара-другая масквафіляў, у зьвязку з няпэўным становішчам Гімназіі, ужо ўзялі з яе сваіх дзяцей і аддалі ў Праваслаўную Літоўскую Сэмінарыю і ў Праваслаўную Жаноцкую Гімназію п. Пасьпелавай. У польскія гімназіі не перайшоў ні адзін вучань. Грошы вучыцялём малодшых клясаў Белар. Гімназі за жнівень і верасень Дэпартамэнт Прасьветы надоячы выплаціў, але з абніжаным множнікам.

### Лёс сэмінарыстых.

Дзеля таго, што Беларуская Вучыцельская Сэмінарыя ў м. Барунах, Ашмянскага павету, зачынена, яе быўшыя вучні ў значным ліку паступаюць ў 1-ю Віленскую Беларускую Гімназію. Бацькі зьмяшчаюць дзяцей у інтэрнаце пры Гімназіі, прывозячы для іх прадукты з сваіх вёсак.

### А. Грыневіч на волі.

Вядомы слаўны зьбіраньнік беларускіх народных песьняў Антон Грыневіч, адседзіўшы 9 месяцаў у вастрозе, гэтымі днямі выпушчаны на волю. Усё віленскае грамадзянства вельмі ўсьцешана, што стары дзеяч, слабы на здароўе, не загінуў.

### Да беларусаў, што паступаюць у Віленскі Унівэрсытэт.

Беларусаў, якіх не прапусьціла Кваліфікацыйная Камісія Унівэрсытэту Сьцяпана Баторага, просяць зьвярнуцца ў Цэнтральную Беларускую Школьную Раду штодзень ад гадз. $4^1/_2$ да 6 у будынку Беларускай Гімназіі (Астрабрамская, 9).

### Корэспондэнт „Czas‘у“ ў Луцкевіча.

Надоячы ў аднаго з віленскіх беларускіх дзеячаў, Антона Луцкевіча, быў корэспондэнт газэты „Czas“, які, паміж іншым, спытаўся, ці прымуць беларусы учасьце ў задуманым скліканьні Сойму Сярэдняе Літвы. На гэта Антон Луцкевіч адказаў, што на яго зданьне, калі істнуючыя адносіны да беларусаў ня зьменяцца каранным чынам, дык беларусы, бязумоўна, ад выбараў у Сойм адмовяцца.

## Т-ва Беларускае Школы.

Уступілі запраўднымі сябрамі ў „Т-ва Беларускае Школы“:

80) Я. Крыўка, 81) Зінаіда Крыўка, 82) К. Дзьмітрачэнка, 83) Уладзімір Скабей, 84) Сымон Маркевіч, 85) Аляксандар Плескачэўскі, 86) Караліна Плескачэўская, 87) Наталя Арсенева, 88) Г. Дварчанін, 89) Мікола Біляй, 90) Уладыслаў Грыневіч, 91) Надзея Аўсейчык, 92) Дзьмітрыеў, 93) Раковіч, 94) Ул. Міхалевіч, 95) А. Канчэўскі, 96) Адольф Клімовіч, 97) Ганна Кавэрда, 98) С. Малафееў, 99) Ул. Знамяроўскі, 100) М. Сянкевіч, 101) З. Пачопка, 102) Я. Пачопка, 103) Я. Тарчэўскі, 104) Кастусёнак, 105) Рамановіч, 106) Більдзюкевіч, 107) Н. Банцлебэн, 108) Н. Сасноўская, 109) Уладз. Гічан, 110) Прахор Хоцька, 111) Мервіч, 112) Пранц. Кушаль, 113) Тулоўскі, 114) Я. Цеханоўскі, 115) Андрэй Якубецкі, 116) Зося Пронька.

## Беларускі тэатр.

У суботу 15 кастрычніка Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток ладзіць вечар у сваім памяшканьні (Біскупская, 12). Пастаўлена будзе: „Галодны Дон-Жуан“ вясёлы жарт пераклад з расейскага, „Стараста“ інсцэнізацыя з апавяд. Т. Гушчы і дывэртысмэнт. Пасьля ўсяго танцы на залі да 4 г. раніцы.

## Грамадзяне! Спаўняйце сваю павіннасьць, запісвайцеся ў „Т-ва Беларускае Школы!“

**Запісь прыймаецца ў „Беларускай Кнігарні“ (Завальная вул., № 7)**

У суботу 1 кастрычніка адбыўся вечар у памяшканьні Беларускага Музыкальна - Драматычнага Гуртка. Ігралі „Модны шляхцюк“ Каганца і „Гэта палітыка“. Асабліва дружна згулялі апошні жарт, дзе чулася, што нашы артысты палажылі крыху працы. Гэтага трэба было-б пажадаць і на будучыню, каб ролі лепш апрацоўваліся.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Расейская газэта.

У сераду 12-га гэтага кастрычніка выйшаў першы нумар новае, пасьля закрытага „Виленскаго Слова“, расейскае газэты „Виленское Утро“.

### Жыцьцё ліцьвіноў.

— Улада зачыніла Віленскі Літоўскі Банк. Даны кароткі час на расплату з даўжнікамі і для ліквідацыі.

— Віленскаму коопэратыву „Ляймэ“ Дэпартамэнт Унутраных Справаў адказаў, што прадстаўлены на рэгістрацыю статут коопэратыва ім не рэгіструецца. Статут быў пасланы на літоўскай мове.

— 1-га кастрычніка пасьля паўдня паліцыя акружыла будынак Літоўскай Гімназіі ў Вільні з мэтай высяленьня з яго Гімназіі і Вышэйшых Літоўскіх Пэдагогічных курсаў. Заданьне даканава з падмогай нейкіх суб'ектаў так, што аказаліся пабітыя і акрываўленыя дзеці. (па „Vilnius“-у).

— З 2 на 3 кастрычніка было заарыштована колькі ліцьвіноў на вул. Субач 16. Літоўскі прытулак, які тут зьмяшчаўся, выселены (па „Vilnius“-у).

— Літоўскія школы, выселеныя з сваіх ранейшых будынкаў, ніяк ня могуць, знайсьці патрэбных памяшчэньняў. Адзін добра рэмантаваны ліцьвінамі пад школу прыватны дом зрэквізованы пад нейкую чугуначную установу.

Да 1000 чалавек вучнёўскай літоўскай моладзі ў Вільні цяпер з гэтых прычын ня вучацца (па „Vilnius“-у).

— У літоўскіх сялібах у Маркуцьці (пад Вільняю) доўга шукана ў зямлі нібыто схаванага там аружжа, але нічога ня знойдзена.

## Віленская біржа.

За 11 кастрычніка 1921 г.

| | | |
|---|---|---|
| Даляры | 5100 | п. м. |
| Франкі | 366 | „ |
| Фунты штэрлінгаў | 18700 | „ |
| Ост.-маркі (1000) | 41.00 | „ |
| Нямецк. маркі (100) | 44.50 | „ |
| 10 руб. золатам | 21800 | „ |
| 1 „ серабр. | 1250 | „ |
| 1 „ дробнымі | — | „ |
| Царскія 500 р. (за 100 р.) | — | „ |
| „ 100 р. | 650 | „ |
| „ дробныя | — | „ |
| Думскія 1000 р. | — | „ |
| „ 250 р. | — | „ |
| Керэнкі | — | „ |

## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі. — „Гісторыя беларускае літэратуры“** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 150 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія — „Маскоўска-беларускі слоўнік“**, выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна—„Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры**, адбітка з „Нашае Думкі“, цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар — «Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»**, адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік—„Нашая крыніца“**, трэцяе чытаньне для беларускіх пачаткавых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі**, укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

**Л. Гарэцкая. — „Родны Край“**— трэцяя і чацьвёртая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Цана 150 мар.

**Францішак Аляхновіч.—Заручыны Паўлінкі** пьеса ў 1 акце з песьнямі і скокамі. Цана 50 мар. п.

Апрача таго, перадрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка“** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні», Вільня, Завальная 7.

**„БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ“**
тыднёвая беларуская газэта. Адрэс Рэдакцыі й Канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.

**ГРОШЫ і ПАШТОВЫЯ МАРКІ**
для колекцыяў куплю і мяняю.
Estonija, Reval. Post kast 135, N. Tschervjakoff.

**БЕЛАРУСКІ ЖУРНАЛІСТЫ**
жадае перапісвацца з беларусамі і беларускамі. Estonija, Reval. Post kast 153, N. Tschervjakoff.

**БЕЛАРУСКАЕ ПРЭС-БЮРО**
ў Рэвалі можа памагчы знайсьці сваякоў і знаёмых ува ўсіх краёх.
Estonija, Reval. Post kast 135. Biełaruskae pres-biuro.

**ПАРТРЭТЫ беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў.**
Коштам грам. Ф. АЛЯХНОВІЧА
выдаюцца партрэты беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў (формат 1/2 канцэлярскага аркуша). У першую чаргу выданы партрэты „Цёткі“ (А. Кэйрысіхі). У хуткім часе паявяцца партрэты Івана Луцкевіча, М. Бурачка (Багушэвіча) і А. Гаруна (Прушынскага). Цана кожнага партрэта, наклеенага на пас-парту 750 м.
**Прадаюцца ў Беларускай Кнігарні, на Завальнай вул., 7.**

**KRYNICA.**
Biełaruskaja chryścijanska-sialanskaja hazeta
PRYMAJECCA PADPISKA na 1921 h. (V hod wydańnia).
Na hod 300 mk., na paŭhoda 150 mk., na 3 miesiacy 75 mk.
**Adres: Wilnia, Zawalnaja wul. № 7, ad 9—6.**

**Беларуская Кнігарня**
(Беларускага Выдавецкага Т-ва)
**адрэс: Вільня, Завальная вул, № 7**
прадае ўсялякія беларускія гкіні і газэты, а таксама сшыткі і розныя іншыя школьныя, пісьменныя і канцэлярскія матар'ялы і прылады.

**Прымаюцца ахвотнікі іграць**
**у струнным аркестры**
Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка. Запісавацца можна ад 4 да 6 гадзіны ў памяшканьні Гуртка на Біскупскай вул., д. № 12.

### АБВЕСТКА.

З дазваленьня Міністэрства Веравызнаньня і Прасьветы Грамадзянская Прыватная Жаноцкая Гімназія ў Несьвіжы аднаўляе сваю дзеяльнасьць у 1921—22 вучэбным годзе.

Прадметы ў клясах 3, 4, 5, 6, 7 і 8 будуць выкладацца у расейскаи мове, у клясах 1 і 2 ў беларускай мове, ў клясах 1 і 2 у беларускай мове. Прыймовыя экзамены ва ўсе клясы і пераэкзаменоўкі пачнуцца з 26 верасьня.

По заканчэньні экзаменаў пачнуцца клясныя заняткі.

Утрымацель Прыватнае Жаноцкае Гімназіі ў Несьвіжы У. Жаўнаркевіч.
Дірэктар гімназіі К. Шчансновіч.

Грамадзяне, вясковыя вучыцялі й вучыцелькі!

Працуючы ў вёсцы, Вы лёгка можаце сабраць ваколічныя беларускія народныя песьні і гэтым укладзеце новы скарб у наш друк, прыслаўшы сабранае ў „БЕЛАРУСКІ ЗВОН“.

Дык не марнуйце дарма свайго вольнага часу!

Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23.

Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.